# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 38 (551) ГОД XI БЕЛАСТОК, 18 ВЕРАСНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

## У НУМАРЫ

Максім Багдановіч: — «ВЕРШЫ».

Васіль Гулько: — «СУТНАСЦЬ АДДЗЯЛЕННЯ КАСЦЁЛА АД ДЗЯРЖАВЫ».

Панцеляймон Юр'еў: БЕЛАРУСКІЯ МЯДЗВЕЖНІКІ.

## НОВЫ КОНКУРС „НІВЫ“

# Мы і нашыя суседзі

*Хто такія «мы», і хто такія нашыя «суседзі»? — такая тэма нашага конкурса. Выкарыстаецца ён рэдакцыяй пры апрацаванні карты этнічных груп існуючых у народнай свядомасці. Напішыце тады, як называеце вы вашых суседзяў — суседнія вёскі і аколіцы — матанамі, падляшамі, ліцьвінамі, штокманамі, ці можа яшчэ неяк, чым адрозніваюцца яны ад вас, — якімі рысамі мовы і характару, назавіце дакладна гэтыя вёскі і напішыце, як суседзі называюць вас. Сярод тых, хто прышле найлепшае апісанне этнічных групіровак сваёй аколіцы, разлясаваных будзе 30 кніжных узнагарод. Адказы можна прысылаць да 1.XI.1966 года.*

# ДУША НАШАЙ ВЁСКІ

Такая ўжо натура ў чалавека, што хацеў бы ведаць, як жыве другі чалавек. Калісьці яшчэ ў дзіцячых гадах марыў я часта, каб узабрацца на такое высокае дрэва, з якога відаць было б ад Масквы да Варшавы. Цяпер ведаю, што ёсць другі спосаб, каб паглядзець на жыццё невядомых і далёкіх людзей.

Вось параўнальна нядаўна Ваяводскае статыстычнае ўпраўленне выдала свой навейшы статыстычны даведнік (Rocznik Statystyczny). Паказвае ён у асноўным Беласточчыну, якая яна была ў 1960—1964 гадах, часам толькі дае больш адлеглую перспектыву і тады вынікі з 1964 года параўноўвае з вынікамі ранейшых гадоў.

Карыстаючыся тады гэтай кніжкай, паглядзім, як жывуць у нас сяляне. **У** Беластоцкім ваяводстве ў 1960 г. налічвалася 178 273 самастойныя гаспадаркі. На працягу 10-ці год прыбыло нам звыш 10 тысяч новых гаспадарак. Адкуль яны ўзяліся? Дакладны аналіз лікаў паказвае, што новыя гаспадаркі ўтвараліся перш за ўсё на аснове сямейных падзелаў. Найбольш зменшылася колькасць гаспадарак даволі вялікіх, плошча якіх складае 15—20 га, але адначасова яшчэ больш (каля 7-мі тысяч) прыбыло гаспадарак 10—15 гектаровых. Расла таксама колькасць карлікавых 1- 3-гектаровых гаспадарак.

Няма ў нас памешчыкаў. Народная рэвалюцыя неадкладна зняла іх з паверхні вясковага краявіду. Ледзь 3% самастойных гаспадароў маюць звыш 20-цігектаровыя гаспадаркі. Вёска Беласточчыны ў асноўным серадняцкая. Найбольш гаспадароў маюць па 7—10 га зямлі, а беднякоў (па 1—3 га) больш у нас, як багатых (па 15 і больш га).

Самай вялікай у ваяводстве вёскай усё яшчэ з'яўляецца горад Беласток. **Амаль тры з палавінай тысячы беластачан мае ўласную зямлю.** Найчасцей гэта толькі агародчыкі, плошчаю да паўгектара, але ёсць і трох багацеяў, якіх гаспадаркі перавышаюць 20 га зямлі.

Часта наракаем, што людзі ўцякаюць у горад, што вёскі вылюдняюцца, што няма каму працаваць на гаспадарках. **Статыстыка мінулага 20-цігоддзя не пацвярджае такіх меркаванняў.** Пачынаючы ад 1946 года колькасць жыхараў вёскі ўтрымоўвалася амаль на аднолькавым узроўні. Наглядаўся нават нязначны прыбытак насельніцтва. Для прыкладу: у 1950 г. жыло ў вёсках Беласточчыны 740626 асоб. За 10 год прыбыло яшчэ амаль 23 тысячы.

Вядома, насельніцтва гарадоў і мястэчак павялічвалася значна хутчэй, чым вёсак. У гарады перасяляліся перш за ўсё людзі яшчэ вельмі маладыя, узростам у 16—24 гады. З таго можна меркаваць, што дарога з вёскі ў горад вяла іх праз школу і вайсковую службу. Значыць, як найбольш правідловая дарога. Пры цяперашняй раздробленасці гаспадарак ды ўсё растучай механізацыі апрацоўкі зямлі няма патрэбы, каб усе, хто толькі родзіцца ў вёсцы, там і заставаліся. Нічога добрага не дало б гэта ані вёсцы, ані гораду.

Сельская гаспадарка Беластоцкага ваяводства пастаянна інтэнсіфікуецца. Сяляне прымушаюць сваю зямлю даваць усё больш і больш ураджаю. Вось у 1963 годзе сяляне прадалі з кожнага гектара зямельных угоддзяў на звыш 300 зл. больш раслінных прадуктаў,

(Працяг на стар. 5)



**РАДАСЦЬ ХЛЕБА.** Жыта зжата, звезена... Сыплецца золата, якое мае форму жытніх зярнят і лепшае ад золата, бо смачнае. (вл)

Уладзімір Станкевіч

# МАЯ СУСТРЭЧА З БРАНІСЛАВАМ ТАРАШКЕВІЧАМ

У студзені 1933 года мяне перавезлі з беластоцкай турмы ў адну з варшаўскіх турмаў — «Мокотув». Адседжваў я тады свой ужо другі прыгавор (шэсць гадоў цяжкай турмы) за камуністычную дзейнасць.

У маі месяцы вывезлі з макатоўскай турмы палітвязняў з большымі (звыш 4-х гадоў) прыгаворамі. Да гэтага транспарту (каля 30 асоб) далучылі і мяне. Былі ў гэтым транспарце таварышы Вацлаў Квяткоўскі (стараста макатоўскай камуны палітвязняў), Эдвард Охаб, Зыгмунт Гордан, Мечыслаў Окрэнт, Андрэй Воліца (пісьменнік) і іншыя выдатныя дзеячы Камуністычнай партыі Польшчы.

Прывязлі нас у Плоцк. Але якраз у гэтым часе ў плоцкай турме камуна палітвязняў вяла барацьбу супраць намаганняў з боку турэмнай адміністрацыі ўвядзення новага турэмнага рэгуляміну выданага ў 1931 годзе санацыйным фашысцкім урадам. Паводле гэтага рэгуляміна палітычныя вязні зроўніваліся з вязнямі крымінальнымі, гэта значыць — палітычным вязням адбіралася правы, здабытыя імі цяжкай крывавай барацьбой у першыя гады існавання капіталістычнай Польшчы. І хоць нас не прылучылі да плоцкай камуны, а наадварот, стараліся нас ад яе адізаляваць — мы зараз жа даведаліся аб ведзенай камунай акцыі і да гэтай акцыі прылучыліся. Прадстаўнікі нашай групы заявілі турэмнай адміністрацыі аб нашай салідарнасці з камунай і дамагаліся прылучэння нас да камуны.

Не прылучылі. На чацвёрты ці пяты дзень нашага знаходжання ў Плоцку паклікалі ўсю нашу групу ў турэмную канцылярыю. Але замест у канцылярыю — завялі ў якуюсьці вялікую залу, дзе ўжо чакалі нас паліцыянты. Далучылі да нас 11-цаць асоб кіруючага актыву з плоцкай камуны на чале з таварышамі: Марцэлім Навотка, паслом Браніславам Тарашкевічам, Антонам Якубоўскім і Францішкам Юзвякам. Мы сардэчна прывіталіся з далучанымі да нас таварышамі. І вось тады, у такіх абставінах я пазнаёміўся асабіста з Браніславам Тарашкевічам — прыгаварыным фашысцкім судом на 12 гадоў цяжкай турмы.

Начальнік турмы заявіў, што перадказвае нас у рукі паліцыі, якая «адтранспартуе вас у іншую турму, бо ў Плоцку для вас няма месца». Кіраўнік канвою загадаў паліцыі скаваць нас за рукі па дваіх. Мы заявілі, што не дамося закоўваць, і калі паліцыянты схапілі першых двух таварышаў — мы цесна згуртаваліся, схапіліся за рукі і пачалі крычаць: «Б'юць палітычных вязняў!!! Не біць!.. Прэч фашысцкіх катаў!..», а таксама пачалі спяваць «Інтэрнацыянал». На нашы крыкі адгукнуліся не толькі ўсе палітычныя вязні, але і вязні крымінальныя. Яны крычалі і білі ў жалезныя дзверы чым толькі маглі. Гучала ўся турма, а гэты гул хвалямі пераліваўся праз сцены турмы і ахопліваў увесь Плоцк. Людзі беглі да турмы, як на пажар.

Паліцыянты, б'ючы гумовымі палкамі, сілаю вырывалі таварышаў па аднаму, скоўвалі рукі дваім адорваным і ўпіхалі ў турэмны закратаваны аўтамабіль альбо адкрыты грузавы аўтамабіль і везлі на вакзал. Тратуары вуліц былі запоўнены людзьмі, якія махалі нам рукамі і падтрымлівалі нашы лозунгі, якія мы выкрыквалі. Мы спявалі рэвалюцыйныя песні, а таварышы, якія ехалі адкрытым аўтамабілем — узнімалі ўгору скованыя рукі.

Мая рука была скована з рукою Тарашкевіча — гэта было для мяне вялікім гонарам і засталося ў памяці на ўсё жыццё. Мінае ўжо 33 гады з таго часу, а вобраз тых падзей у маіх вачах як жывы. У вушах маіх затрымліваліся словы Тарашкевіча, накіраваныя да мяне ў час нашага гуртавання перад скоўваннем. Хаваючы свае пенснэ ён крыкнуў мне: «схавай акуляры!..»

На вакзале было таксама многа людзей, і там выступіў да іх з прамоваю вядомы варшаўскі камуніст Чэслаў Завістоўскі, за што атрымаў па галаве гумовай палкай, а людзей прагналі з перона.

Валакіта з намі трывала ад полудня да амаль познага вечара. Цягнік, якім мы мелі паехаць, адышоў не дачакаўшыся нас. Пагрузілі нас у спецыяльна прысланы ў Плоцк арыштанцкі вагон з закратаванымі вокнамі, дзе знялі нам з рук жалезныя наручнікі. Начавалі мы ў гэтым вагоне ў Плоцку. Раніцай наступнага дня павезлі нас у Каранова (Быдгоскае ваяводства), дзе знаходзілася цэнтральная карная турма.

У турме пасадзілі нас у адзіночныя камеры. Але мы хутка даведаліся, што ў Каранове палітычныя вязні сядзелі ў агульных камерах: мы пачалі дамагацца перамяшчэння і нас у агульныя камеры. Дамаганні нашы падтрымала камуна (з якою ў Каранове турэмная адміністрацыя лічылася), і таму за некалькі дзён мы апынуліся ў агульных камерах і папоўнілі рады караноўскай камуны, якая налічвала ў той час звыш 300 палітвязняў з усяе Польшчы, За-

(Працяг на стар. 4)

 

А. Баршчэўскі, В. Швед

## Дружба і праца

### ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ (1891—1917) — беларускі паэт і літаратурны крытык. Пачаў друкаваць вершы не маючы яшчэ 16 год. Выдаў зборнік паэзіі «Вянок». Паэзія Багдановіча вызначаецца вялікай любоўю аўтара да сваёй айчыны, роднай прыроды і беларускага фальклору. М. Багдановіч звяртаў значную ўвагу на гістарычнае мінулае Беларусі: апісваў старыя кнігі, музейныя экспанаты, даўнюю архітэктуру. Багдановіч быў першым паэтам у беларускай літаратуры, які з вялікай пашанай і сімпатыяй апісваў горад, бачачы ў ім цэнтр культуры і прагрэсу. Многія вершы Багдановіча былі заснаваны на матывах беларускага фальклору. Апрача арыгінальнай творчасці паэт займаўся перакладамі са старажытных грэчаскай і рымскай літаратур а таксама з літаратур многіх еўрапейскіх народаў.

Вершы М. Багдановіча вызначаюцца дасканаласцю формы і тонкасцю паэтычных пачуццяў.

М. Багдановіч знаходзіўся ў сардэчнай дружбе з Змітраком Бядуляй.

### ЭМІГРАНЦКАЯ ПЕСНЯ

**Ёсць на свеце такія бадзягі,**
**Што не вераць ні ў бога, ні ў чорта.**
**Ім прыемны стракатыя сцягі**
**Караблёў акіянскага порта.**

**І няма ім каго тут пакінуць,**
**Бо нікога на свеце не маюць.**
**Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —**
**Аднаго яны моцна жадаюць:**

**Пабываць у краях незнаёмых,**
**Ды зазнаць там і шчасця і гора,**
**І загінуць у хвалях салёных**
**Белапеннага сіняга мора.**

**Але мы — не таго мы шукаем,**
**Не таго на чужыне нам трэба.**
**Не расталіся б мы з нашым краем,**
**Каб было дзеля нас у ім хлеба.**

**І на вулцы пад грукат, пад гоман,**
**Дзе натоўп закруціўся рухавы,**
**Нам маячыцца вёсачка, Нёман**
**І агні партавыя Лібавы.**

1. Да якога перыяду ў гісторыі Беларусі адносіцца падзея апісаная ў творы?
2. Чаму беларусы пакідалі сваю айчыну і выязджалі за мяжу?
3. Як адчуваюць сябе героі верша на чужыне?
4. Чаму героі твора хочуць вярнуцца на радзіму?

### СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

**Ад родных ніў, ад роднай хаты**
**У панскі двор дзеля красы**
**Яны, бяздольныя, узяты**
**Ткаць залатыя паясы.**
**І цягам доўгія часіны,**
**Дзявочыя забыўшы сны,**
**Свае шырокія тканіны**
**На лад персідскі ткуць яны.**
**А за сцяной смяецца поле,**
**Зіяе неба з-за акна, —**
**І думкі мкнуцца мімаволі**
**Туды, дзе расцвіла вясна;**
**Дзе блішча збожжа ў яснай далі,**
**Сінеюць міла васількі,**
**Халодным срэбрам ззяюць хвалі**
**Між гор ліючайся ракі;**
**Цямнее край зубчаты бора...**
**І тчэ, забыўшыся, рука,**
**Заміж персідскага узора,**
**Цвяток радзімы васілька.**

1. Да якога гістарычнага перыяду адносіцца апісаная ў вершы падзея?
2. Што ведаеш аб паншчыне і аб жыцці сялян у час прыгону?
3. Чаму зняволеныя дзяўчаты ў забыцці ткалі ўзоры родных кветак, а не чужыя ўзоры?
4. Ахарактарызуй ткацкія прылады і ткацкія вырабы ў тваёй вёсцы.
5. Напішы працу: «Узоры і каларыстыка саматканых дываноў у маёй вёсцы».

### ПАГОНЯ

**Толькі ў сэрцы трывожным пачую**
**За краіну радзімую жах, —**
**Ўспомню Вострую Браму святую**
**І ваякаў на грозных канях.**

**Ў белай пене праносяцца коні, —**
**Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.**

**У бязмежную даль вы ляціце,**
**А за вамі, прад вамі — гады.**
**Вы за кім у пагоню спяшыце?**
**Дзе шляхі вашы йдуць і куды?**

**Мо' яны, Беларусь, панясліся**
**За тваімі дзяцьмі уздагон,**
**Што забылі цябе, адракліся,**
**Прадалі і аддалі ў палон?**

**Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,**
**Не давайце чужынцамі быць!**
**Хай пачуюць, як сэрца начамі**
**Аб радзімай старонцы баліць...**

**Маці родная, Маці-Краіна!**
**Не усцішыцца гэтакі боль...**
**Ты прабач, Ты прымі свайго сына,**
**За Цябе яму ўмерці дазволь!..**

**Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,**
**Срэбнай збруяй далёка грымяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.**

1. Ці ведаеш, што гербам Вялікага Літоўскага Княства, у склад якога ўваходзіла і Беларусь, быў вобраз двух коннікаў з мячамі?
2. Чаму паэту здаецца, што пагоня імчыць за тымі беларусамі, якія выракліся сваёй айчыны?
3. Чаму народы павінны адносіцца з пашанай да сваіх гербаў, штандараў і да сваёй гісторыі?

### ЛІСТЫ З МАЁЙ ВЁСКІ

# Пра партыйнага Валодзьку

Членаў партыі ў маёй вёсцы даволі многа, але людзі чамусьці лічаць партыйным толькі Грышкавага Валодзьку. Мо таму, што Валодзька радным Грамадскай рады нарадовай, або таму, што на сходах заўсёды голас забірае, а мо проста так сабе людзі ўявілі, што сапраўды партыйным можа быць у нашай вёсцы толькі Грышкаў Валодзька. З усяго гэтага вынікае наступнае:

Валодзька мусіць прымаць удзел не толькі ў агульнавясковых сходах, але і ва ўсіх пасяджэннях усялякіх радаў, камітэтаў, камісій і падкамісій, якія толькі існуюць у нашай вёсцы і ў нашай грамадзе.

Не скажу, каб жыццё Грышкавага Валодзькі было лёгкім. Пасяджэнні розных радаў, камітэтаў, камісій і падкамісій найчасцей трываюць доўга, ад раніцы да позняй ночы, і Грышкаў Валодзька не дасыпае, не даядае, не мае калі пагутарыць з жонкаю, накрычаць на дзяцей.

Нялёгкае жыццё і Валодзькінай жонкі. Іншыя жонкі ідуць з мужамі да суседа Івана на хрысціны, а Нінчын Валодзька едзе ў павет на пасяджэнне камітэта да барацьбы з алкагалізмам. Ды ўсе гаспадарскія абавязкі астаюцца на беднай Нінчынай галаве.

Не гэта аднак найгоршае. Найгоршае тое, што за ўсе свае клопаты і жыццёвыя няўдачы, за ўсе непаладкі ў Грамадскай радзе, у ГС-е, у сельскагаспадарчым гуртку людзі лічаць вінаватым Грышкавага Валодзьку. Дарэмна Валодзька тлумачыць, што рады, камітэты і камісіі — органы калектыўныя, што ён, Валодзька, у іх толькі адзін з членаў.

— Не гавары, — адказваюць людзі, — ты ўсё можаш. І, шматзначна прыплюшчыўшы вока, дадаюць.

— Ты ж партыйны.

Усё гэта даўно ўжо выводзіла з цярплівасці Нінку, але астаткова вывела ў мінулым тыдні.

Вярнуўся Валодзька з чарговай нарады ў павеце хмурны і злосны. На нарадзе лаялі Валодзьку, што абмен насеннай бульбы ў нашай грамадзе не ідзе як трэба. Нінка без слова падсунула яму ахаладзеўшую ўжо бульбу і кіслае малако. Валодзька не захацеў есці, Нінка таксама была злоснай: і за тое, што Валодзька цэлы дзень прасядзеў у павеце, і за тое, што не хацеў ён есці пастаўленай вячэры.

Толькі паспеў Валодзька і яго жонка заснуць добрым, здаровым сном, як у акне раздаўся моцны нервовы ломат.

— Каго там зноў чорт прынёс, — барматала пад носам Нінка, пераварочваючыся на другі бок.

Ломат ставаўся аднак штораз мацнейшым і штораз больш нервовым, і Нінка вымушана была выйсці з ложка і падыйсці да акна. За акном канцавыя бабы таўпіліся гурбою і крычалі да Нінкі.

— Адкрый, душачка, адкрый хуценька! Нам вельмі трэба да Валодзькі!

Нінка хацела запытаць, як гэта рабіла часта.

— Але чаго хочаце, гаварыце хутка!

Бабы аднак былі такія знерваваныя і так гвалтоўна дабіваліся да дзвярэй, што сама Нінка перапалохалася і адсунула засаўку.

Бабы кінуліся да Валодзькавай пасцелі, крычучы наперабой:

— Ратуй, Валодзька, ратуй, бо спаліць нас усіх гэтая ведзьма звар'яцелая.

Валодзька з цяжкасцю разбудзіўся, пасля чаго, сеўшы ў кальсонах на пасцелі, пачаў даследваць справу.

Аказалася, што Гапка, якая жыве ў канцы вёскі, сапраўды звар'яцела. Ходзіць з запаленым смольным паленам

(Працяг на стар. 4)

### ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



Вёска Астравы, Дуброўскага павета. Шалёўка і разьба хаты Янкі Ірадухі.
Фота Ул. Юзвюк. 1964 г.

Васіль Гулько

# Сутнасць аддзялення касцёла ад дзяржавы

Сутнасць аддзялення касцёла ад дзяржавы заключаецца ў тым, што для касцёла пакідаюцца ўсе яго рэлігійныя функцыі, з тым, што не можа ён адыгрываць ролі палітычнага фактара (які ўмешваецца беспасрэдна ў палітычнае жыццё дзяржавы). З'яўляецца гэта звальненнем касцёла ад палітычна-юрыдычных функцый, якія выконваў ён у многіх галінах на працягу некалькі сот гадоў, калі дзяржаўнага апарата ў такім разуменні як сёння не было. Аддзяленне дзяржавы ад касцёла не абазначае ў найменшай ступені агранічэння правоў касцёла ў яго рэлігійнай дзейнасці.

Аддзяленне касцёла ад дзяржавы існуе ў большасці капіталістычных краін і то нярэдка ў такіх краінах, у якіх каталікі складаюць большасць народа. Напрыклад, у Францыі, Партугаліі, Мексіцы, Эквадары, Бразіліі, ЗША, Бельгіі і іншых краінах. У большасці пералічаных краін сэнс аддзялення заключаецца ў наданні рэлігійным саюзам правоў звычайных таварystваў, а таксама такім рэлігійным саюзам не даюцца датацыі з публічных фондаў. Як вядома французская буржуазная рэвалюцыя праклямавала ў 1789 годзе «Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна», якая сфармулявала, між іншым, прынцып, што ніхто не можа быць непакоены з прычыны сваіх рэлігійных перакананняў. Асноўным актам, які рэгуляваў адносіны дзяржавы да касцёла ў паслярэвалюцыйнай Францыі быў дэкрэт аб аддзяленні дзяржавы ад касцёла ад 21 лютага 1795 года. Гэты дэкрэт стаўся класічным узорам для пазнейшых законаў аб аддзяленні ў некаторых капіталістычных краінах. У адрозненні ад французскага дэкрэта, канстытуцыя ЗША яшчэ раней, бо ў 1787 годзе, увяла сістэму аддзялення, якая вынікала з матываў рэлігійнага лібералізму. У Мексіцы ў 1873 годзе ўведзена сістэму аддзялення касцёла ад дзяржавы, згодна з рашэннем якой законы былі падданы рэгламентацыі. Наступным крокам аддзялення касцёла ад дзяржавы быў дэкрэт Парыжскай Камуны ад 2 красавіка 1841 г. У гэтым дэкрэце чытаем: Касцёл аддзяляецца ад дзяржавы, бюджэт веравызнання зносіцца, маёнткі званыя маёнткамі мёртвай рукі, якія належаць да рэлігійных кангрэгацый, прызначаюцца ўласнасцю народа. У 1905 годзе ў Францыі праведзена было аддзяленне касцёла ад дзяржавы праз юрыдычную нармалізацыю справы рэлігійных практык. Уведзена спецыяльны дзяржаўны нагляд над веравызнавальнымі саюзамі, а касцёльная нерухомая маёмасць пераказана на ўласнасць народа. Пры дапамозе падобных правілаў праведзена было ў 1911 годзе аддзяленне касцёла ад дзяржавы ў Партугаліі. Аднак найбольш радыкальным чынам сістэма аддзялення была сфармулявана ў Мексіканскай канстытуцыі ад 1917 года. Гэтая канстытуцыя да сённяшняга дня забараняе духоўным вучыць дзяцей у школе. Рэлігійныя саюзы не маюць права набываць і мець нерухомыя маёмасці касцёлаў. Таксама канстытуцыя Іспанскай Рэспублікі ад 9 снежня 1931 года ўвяла аддзяленне касцёла ад дзяржавы паводле класічнага французскага ўзору. Дае ён свабоду сумлення і свабоду выконвання рэлігійнага культу, аднак гэтая свабода не можа парушаць правілаў грамадскай маралі.

Аддзяленне касцёла ад дзяржавы існуе таксама ў сацыялістычных дзяржавах. Гэтая сістэма адрозніваецца ад аналагічных сістэм у буржуазійных дзяржавах тым, што ўводзіць яна юрыдычную ахову свабоды сумлення як веруючых грамадзян, так і няверуючых, такім чынам рэалізуючы поўнае раўнапраўе грамадзян нягледзячы на іх адносіны да рэлігіі. За ўзор урэгулявання адносін дзяржавы да касцёла прынята ў сацыялістычных дзяржавах ленінскі дэкрэт ад 28 студзеня 1918 года аб аддзяленні касцёла ад дзяржавы і школы ад касцёла. Ссылаючыся на класічныя рэвалюцыйныя ўзоры Францыі, дэкрэт ад 28.І. 1918 года аб аддзяленні касцёла ад дзяржавы і школы ад касцёла праклямаваў асноўныя правілы савецкага веравызнаўчага закона, які пазнейшае савецкае заканадаўства прызнала непарушным развіваючы і канкрэтызуючы яго адпаведна да нармалізацыі адносін паміж касцёлам а дзяржаваю. З прававых дакументаў вынікае, што гэтая сістэма ў фармальна-прававых адносінах навязвае да класічнай эўрэйскай сістэмы аддзялення, якая навязвае да ўзораў і традыцыі Вялікай Французскай рэвалюцыі. Таксама і ў іншых сацыялістычных краінах ад моманту іх паўстання адбылося аддзяленне касцёла ад дзяржавы, у залежнасці ад унутранай спецыфікі, гістарычных традыцый, а таксама суадносін паміж дзяржаваю і касцёлам.

(Заканчэнне за тыдзень)



 

(Працяг са стар. 1)

# Мая сустрэча з Браніславам Тарашкевічам

ходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Караноўская камуна была моцна згуртаваная, здысцыплінаваная, ідэйна добра выхаваная і таму аб яе стойкасць разбіваліся ўсе спробы турэмнай адміністрацыі ажыццявіць новы турэмны рэгулямін. У камерах і ў час прагулак (на якія мы выходзілі два разы ў дзень па адной гадзіне) вялася інтэнсіўная навучальная і выхаваўчая работа. А вучыць і выхоўваць было каму і каго.

На жаль, мне не ўдалося папасці ў адну камеру разам з Тарашкевічам. У камеры, у якой ён быў, было некалькі беларусаў, якія ўтварылі гурток па вывучэнню беларускай мовы. Настаўнікам, вядома, быў Тарашкевіч. Але мы, беларусы, з іншых камер таксама ўтварылі гурток навучання беларускай мовы, а Тарашкевіч вельмі ахвотна кіраваў працай і нашага гуртка, праводзячы з намі заняткі тры разы ў тыдзень у час прагулак.

Браніслаў Тарашкевіч быў у Каранове коратка, некалькі месяцаў. У кастрычніку ці лістападзе яго вывезлі з Каранова — як нам было вядома — на абмен вязнямі між Польшчай і СССР. Развітанне камуны з Тарашкевічам было вельмі сардэчнае і ўрачыстае. У камеры, у якой сядзеў ён (а было там звыш 50 асоб), адбыўся развітальны банкет з прамовамі, у якім кіраўнікі камуны ў цёплых словах гаварылі аб Браніславе Тарашкевічу як чалавеку і камуністу і аб яго дзейнасці для справы камунізма. Тав. Тарашкевіч горача завяраў камуну, што ўсе свае веды, усё сваё жыццё аддасць справе працоўных, справе камунізма. Аднак, як потым мы даведаліся, Тарашкевіча павезлі з Каранова не проста ў Савецкі Саюз, а ў Варшаву ў Макатоўскую турму, адкуль толькі аж у жніўні 1934 года паехаў у СССР. У Каранове тав. Тарашкевіч быў вельмі актыўным членам камуны. Жыва цікавіўся ўсімі справамі, прымаў актыўны і творчы ўдзел ва ўсіх палітычных і тэарэтычных дыскусіях, якія (а было іх вельмі многа) у турме адбываліся. Шмат чытаў і пісаў, працаваў над перакладамі твораў Міцкевіча на беларускую мову, пісаў артыкулы на тэмы нацыянальна - вызваленчай барацьбы, якія змяшчаліся ў нелегальным часопісе караноўскай камуны «Брдовяк» (назва ад ракі Брды, ля берага якой была турма).

**Уладзімір Станкевіч**

(Працяг са стар. 3)

# Пра партыйнага Валодзьку

па хлявах і тлумачыць, што шукае чыіхсьці парубаных дзяцей. Бабы ададбралі палена і палажылі старую ў пасцель, але Гапка спаць не хоча, рвецца, тлумачачы, што мае нешта вельмі пільнае зрабіць у хляве.

— Што ж я магу параіць, — тлумачыў Валодзька. — Я ж не лекар і ні псіхіятр.

— Але ты партыйны, — адказвалі бабы.

Мусіў тады Валодзька вылазіць з ложка ды ісці на пошту званіць па санітарную карэтку.

На другі дзень Нінка злосна варчала:
— Што за чорт з гэтымі людзьмі. Чаму яны не ідуць да солтыса, або да старшыні сельгасгуртка, або да начальніка пошты, або да нейкага іншага начальніка. Толькі ўсё да цябе!

— Бо я партыйны, — адказвае як заўсёды Валодзька.

— Каб была ведала, замуж за цябе б не пайшла, — злуецца Нінка. А можа і не злуецца. Бо Нінка, аб чым у вёсцы ўсе ведаюць, вельмі кахае свайго Валодзьку, хаця ён мае для яе так мала часу.

**Рыгор Паўлюк**





ГАЙНАЎКА БУДУЕЦЦА. Гайнаўка ўжо зараз займае трэцяе месца ў ваяводстве па колькасці насельніцтва, хаця яе гарадская велічыня адразу не кідаецца ў вочы. Распаўзлася яна па шматлікіх прыгарадах, якія нядаўна былі яшчэ самастойнымі вёскамі.
Новае будаўніцтва таксама неяк сарамліва паказваецца ў цэнтры Гайнаўкі. Тут наогул па-ранейшаму пахіляюць да зямлі свае стрэхі даваенныя аднапавярховыя домікі. І трэба пахадзіць па горадзе, каб пераканацца ў тым, што сапраўды ў Гайнаўцы будуюць многа і з вялікім размахам. Усё разам аблічваецца на дзесяткі мільёнаў злотых.

Вось новыя кватэры ў новых дамах пры вуліцы Вызвалення. Год таму назад нічога тут яшчэ не было.

Крыху далей пад пушчу ПЗГС будуе за 4 мільёны злотых склад для машын і другой сельскагаспадарчай тэхнікі.

(вр)

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# Ці авечка з'есць усё (2)

Аб авечках пішацца і гаворыцца не так ужо і часта. А здаецца, варта. Бо гэта ж жывёла, якая з даўных-давён дапамагае чалавеку і ўмее прыстасавацца да кожных умоў. Сусветнае пагалоўе авечак налічвае 900 млн. галоў. Найбольш у Еўропе, Азіі і Аўстраліі.

У Польшчы заўсёды першае месца па авечкагадоўлі займала Беласточчына. Напр., у 1956 годзе ў нас прыпадала па 28,5 авечак на 100 гектараў. У пазнейшыя гады пагалоўе сістэматычна змяншалася. І толькі апошні сельскагаспадарчы перапіс выказаў стабілізацыю і нават невялікі прагрэс у гэтай галіне.

Прычынай няўдач у гадоўлі авечак была пераважна дрэнная якасць воўны. Апошнія гады прынеслі значныя змены на лепшае. Цікавая рэч: нягледзячы на змяншэнне пагалоўя, скуп воўны зусім не змяншаўся, а якасць яе пастаянна паляпшалася. Дзяржава атрымала шмат сыравіны, што дазволіла зменшыць імпарт воўны.

Што вырашае аб паспяховай гадоўлі авечак? Вядома, адпаведная парода і корм. У сувязі з тым, як трэба карміць мерыносаў? Ці іх высокія якасці спалучаны з вялікімі патрэбамі? У параўнанні з прымітыўнымі авечкамі (напр. свіняркамі) — так. Мерыносы належаць да той самай групы кармлення, што і фрызы, чорнагалоўкі, такселі, кенты, а таксама польскія доўгавоўністыя авечкі. Порцыі залежаць ад узросту, вагі, месяца цяжарнасці, колькасці ягнят-сасункоў, а ў выпадку маркача — ад перыяду выкарыстоўвання яго.

Гаворачы вельмі агульна, збожжавых кармоў даем да 150 гр. на галаву (пры адкорме — 250 гр.), сена каля 1 кг, бульбы да 1,5 кг, сіласу да 3 кг. мелесу да 200 гр, вывару да 4 літраў, а таксама 10 гр мінеральных кармоў і солі ўволю (з'ядаюць каля 4—10 гр. у дзень). У табліцах кармлення авечак можна знайсці, што, напр., маркач у нерасплодны перыяд (вагой каля 80 кг) патрабуе 2 кг сухой масы, 1,6 кармавой адзінкі і 125 гр. бялкоў. У расплодны перыяд павялічваем колькасць сухой масы да 2,4 кг, кармавых адзінак — да 1,76, а бялкоў — да 250 гр. Для котнай авечкі ў апошнія 3 месяцы цяжарнасці: 1 кг лугавога сена, 0,5 кг азімай саломы, 0,15 кг зерня салодкага лубіну, 0,05 кг зерня аўса, 1 кг кармавых буракоў або бручкі, 10 гр. мінеральнай мяшанкі.

Авечка, якая корміць двое ягнят, павінна атрымаць 1 кг сена з матыльковых і траў, па 0,25 кг саломы і макухі, 0,3 кг зерня кармавога лубіну, 0,1 кг пшанічнага вотруб'я, 2 кг кармавых буракоў, 10 гр. мінеральнай мяшанкі. З гэтых прыкладаў вынікае, што старая прыказка аб выключнай невыбрэднасці авечкі правільная толькі часткова. Фактычна, авечка мала патрабуе. Але нельга спадзявацца, што авечка ўсё з'есць і дасць шмат воўны. Можна авечак пасці і на слабой пашы, але на лепшай можна дабіцца лепшай воўны і большай вагі. Можна не даваць збожжа, але тады могуць быць клопаты з якасцю воўны.

Проста гаворачы, пра авечкі, асабліва лепшай пароды, трэба дбаць.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ЖУБРОЎКА

На аснове настойкі з белавежскай жуброўкі бровары ў Познані і Седльцах выпрацоўваюць дасканалую водку «жуброўку». На сусветнай выстаўцы спіртных напіткаў, якая была наладжана ў Нью-Йорку ў 1965 г., «Жуброўка» атрымала залатую медаль. (вр)

# БЕЛАРУСКІЯ МЯДЗВ

У мінулыя часы на Белай Русі і ў Польшчы ўсеагульнай папулярнасцю карысталіся вандроўныя музыканты, лірнікі, пажыральнікі агню, штукары і канатаходцы. Вельмі часта, у адной кампаніі з імі, вандравалі (часта працавалі таксама ў адзіночку) — «мядзвежнікі». Гэта былі людзі, пра якіх гаварылі, што яны «з мядзведзем ходзяць», — «мядзведзя розуму навучаюць».

Першыя звесткі аб мядзвежніках на Русі адносяцца да 14—15 стагоддзяў, але яны, несумненна, існавалі і раней.



У Маскве Іван Грозны трымаў на сваім «уцешным двары» заўсёды каля трыццаці мядзведзяў. Барацьба чалавека з мядзведзем заўсёды ў той час прыцягвала да сябе ўвагу, асабліва на поўначы Русі, дзе мядзведзяў спецыяльна навучалі некаторых прыёмаў барацьбы з чалавекам. У Кракаве першыя мядзвежнікі былі прывезены з сабою літоўскімі і беларускімі вяльможамі, якія акружалі Ягайла. Мабыць таму польскі летапіс называе іх «літвіннікамі».

Прафесія «мядзвежнікаў» у значнай ступені тэрытарыяльна была звязана з Белай Руссю і Руссю Літоўскай.

Побач са «смаргонскай акадэміяй» з давён-даўна, якая дастаўляла дрэсіраваныя мядзведзі да ўсіх еўрапейскіх краін, вядомыя былі ў свой час і мядзвежыя акадэмікі ў аколіцах Бельска і Аўгустова, якія паспяхова канкуравалі са Смаргоняй. Спачатку «мядзвежнікамі» былі пераважна вандруючыя цыганы, але ў хуткім часе «мядзвежніцтвам» заняліся і беларускія мяшчане. Слава мядзвежнікаў з Аўгустова і Бельска была зусім не меншай чым «мядзвежага ада» Смаргоні.

Яшчэ ў канцы мінулага і ў пачатку XX стагоддзяў у Беластоцкай вобласці было многа «мядзвежнікаў». Са сваім «звярыным промыслам» яны хадзілі адсюль не толькі па беларускіх землях, але і па ўсёй Расіі. Не абыходзілася і без трагічных выпадкаў. У 1903 годзе «Правительственный Вестник» з павучальным каментарыем паведамляў аб смерці аднаго з беларускіх мядзвежнікаў: у горадзе Мінску мядзведзі раз'юшыліся і разарвалі свайго дрэсіроўшчыка даслоўна на кавалкі. Паліцыя вымушана была мядзведзяў пастраляць. Цікава, што пры палацы Браніцкіх часта наладжваліся своеасаблівыя «мядзвежыя ігрышчы»: барацьба чалавека з мядзведзем, выступленні дрэсіраваных мядзведзяў і т.п. Ва ўспамінах Брасава расказвалася, што Браніцкі быў вялікім аматарам мядзвежых «забаў» і ў сваім палацы зрабіў спецыяльны мядзведнік.

За «вывучанага» мядзведзя добрыя грошы плацілі не толькі мясцовыя аматары «Хітрамудрасці звярынай». Агромная колькасць мядзведзяў, — некалькі дзесяткаў штук у год, — экспартавалася заграніцу, у Італію, у Венгрыю, Іспанію, Францыю і Германію.

У самай Польшчы не было ў той час ніводнай вандруючай трупы, якая з сабою не вадзіла хоць бы аднаго мядзведзя.

Цікава адзначыць, што ў адрозненне ад смаргонскіх прыёмаў абучэння мядзведзяў танцавальнага майстэрства, бяльшчане прымянялі да жывёлы больш гуманныя выхаваўчыя метады, і падсмажвання медзведзянят на распале-

Усё аб фільме

## Пасля лета

Ваш інфарматар сам не глядзеў летам аніводнага фільма. Дзе ж летам да фільма? Зрэшты, тыя, хто вымушаны быў наведваць кіно, сцвярджаюць, што нічога асабліва цікавага не было. Некалькі вестэрнаў, каб прыцягнуць людзей і не занадта страціць на касе.

Адзін толькі фільм хачу падкрэсліць з той летняй лёгкай серыі, які зрэшты ўвайшоў на экраны кіно Беласточчыны ўжо ўвосень. Гэта «Віва Марыя». Фільм аб рэвалюцыі (?!), якую робяць дзве Марыі — прыгожыя і маладыя: Брыжыд Бардо і Жанэ Муру — слаўныя звёзды французскага фільма. Фільм зрабілі французы з італьянцамі. І гэта гаворыць ужо за сябе. Французская лёгкасць і італьянская памысловасць пажаніліся ў «Віва Марыя» вельмі ўдачна. Глядач на фільме смяецца ўвесь час, але смех гэты адукацыйны і філасофскі.

На верасень накіравана на экраны 16 новых фільмаў поўнага метражу, з якіх з радзімай прадукцыі — тры. Аб некаторых, як польскі «Дон Габрыель», французскі «Зэмста ОАС», японскі «Алімпіяда ў Токіо» я пісала раней. Сёння назаву адзін супольны фільм «Найпрыгажэйшыя ашуканствы свету». Гэта чатыры гісторыі самых дзіўных ашуканстваў, якія ведае крыміналістыка.

У далейшым польская прадукцыя дасць нам крымінальны фільм, «Дзе трэці кароль», аб міжнароднай шайцы злодзеяў карцін. Многа ў ім несамавітасці, забабону і спрыту Інтэрполю — міжнароднай паліцыі, сядзіба якой знаходзіцца ў Парыжы. (вл)

## ПАРАДОКС

Францыя ганарыцца тым, што высылае найбольш спецыялістаў у чорную Афрыку. Але гэта хвальба аказваецца не надта верагоднай. Напрыклад, з адной толькі афрыканскай рэспублікі Тога атрымала яна больш лекараў і прафесараў, чым выслала туды. Гэты прыклад пачэрпнуты з рапарта іранскага сацыёлага дра Эсана Нарагі, які склаў у гэтай справе спецыяльны рапарт для Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку.

«Наогул лічыцца, што слабаразвітыя краіны, якім не хапае кадраў, атрымоўваюць дапамогу ад багатых краін. Напраўду справа маецца зусім наадварот. Штогод слабаразвітыя краіны дастаўляюць інжынераў, лекараў, прафесараў індустрыяльным краінам» — піша Нарагі. Аказваецца, што ў Англіі працуе больш спецыялістаў з краін залежных ад Англіі, чым англійскіх спецыялістаў у тых краінах.

Др Нарагі падлічыў, што ў Заходнюю Еўропу штогод прыбывае з яе былых калоній каля 4.000 тэхнічных спецыялістаў. Аказваецца таксама, што больш-менш столькі сама спецыялістаў пакідае Заходнюю Еўропу і выязджае ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Справа ў тым, што Амерыка, яе школы выпускаюць штогод усяго каля 30 тысяч інжынераў, тым часам патрэбна іх ёй у два разы больш! (а-ся)




Наймалодшая спявачка на Сапоцкім фестывалі — шведка Міля Нільсон у Гранд Гатэлі ў Сопаце.



Вось ён, чароўны камень — брыльянт.

Цуды нашага веку

## БРЫЛЬЯНТЫ

Зіхацячыя ўсімі колерамі вясёлкі, чароўныя каменні — гэта брыльянты. Колькі ж казак пра іх! А колькі кніжак! Найбагацейшыя цары і каралі намагаліся ў залатых сваіх каронах мець хаця адзін сапраўдны вялікі брыльянт. Іх вышэй цэняць за золата і плаціну.

Чалавек стварыў цэлую прамысловасць па вытворчасці брыльянтаў. Вось у Смаленску ўжо шмат год працуе аграмадная фабрыка, якая масава ва ўсе куткі свету адпраўляе гэтыя каштоўныя каменні. У фабрыцы працуюць сотні рабочых. Яны на шліфавальных дысках, якія кружацца з касмічнай хуткасцю — тры тысячы абаротаў у мінуту — прыдаюць брыльянтам іх чароўны выгляд.

Брыльянты робяць з алмазаў, якіх у Смаленск дастаўляюць з далёкай Якуціі або з Урала. Алмаз — у сваю чаргу — гэта своеасаблівы вугаль, толькі ён не чорны, а напамінае цьмяны крышталь кухоннай солі. Святло ў ім не адбіваецца. Каб такі алмаз пераўтварыць у брыльянт, трэба зняць з яго цьмяную «скурку» і на бясксталтную форму нанесці аграніроўку. Найменшы брыльянт атрымоўвае 17 граней (бакоў), брыльянт вагой у адну пятую грама, што ў ювелірнай сістэме мер раўняецца аднаму карату, павінен мець 57 граней, а бываюць брыльянты па звыш 100 граней. Яны найдаражэйшыя.



**А тут алмазы пераўтвараюцца ў брыльянты. Кожны сярод рабочых смаленскай фабрыкі з'яўляецца дасканалым майстрам.**

**Тут лічыцца кожная пылінка, а бракаў зусім не можа быць.**

(а-вр)

## У СОПАЦЕ НА ФЕСТЫВАЛІ

Закончыўся VI Міжнародны фестываль песні ў Сопаце. Ужо можам гаварыць аб міжнароднай ранзе гэтага мерапрыемства. Мае яно і мела ў гэтым годзе сваё асаблівае аблічча. Але можа па чарзе назавём некаторыя рысы сапоцкага фестывалю.

Па-першае: 25 краін прыняло ўдзел у сёлеташнім фестывалі.

Па-другое: не было песні з СССР (пакуль не ведаем чаму), але ў журы засядаў вядомы савецкі кампазітар лёгкай песні Юрый Мілюцін, а госцем ганаровым фестывалю быў Марк Бернес — вядомы спявак (ужо сівы, але вечна малады).

Па-трэцяе: фестываль пашырае свой геаграфічны аб'ём: дзве песні было з Лацінскай Амерыкі: Кубы і Мексікі, і нават песня з Заходняй Індыі, якая выконвалася што праўда па-англійску.

Па-чацвёртае: асабліва ў гэтым годзе ўмацаваўся спакойны лірычны характар фестывалю, што дае яму высокую марку ў свеце.

Па-пятае: не падвяла Грэцыя, якая вядзе на сапоцкіх фестывалях. У гэтым годзе вельмі мілая песня «Цыганерыя», у мілым выкананні Анджэлі Джыліі, заняла другое месца, а за выкананне польскай песні ў другім дню тая ж Анджэля заняла першае месца.

Па-шостае: польская песня аб роднай краіне «Вернешся сюды» ў выкананні Ірэны Сантар заняла трэцяе месца. Прыпомнім, што песня Канады з мінулагодняга фестывалю «Мой край» была першай. (вл)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА...

### ШЛЮБЫ

Ад 1959 года штогод зменшваецца колькасць шлюбаў у нашай краіне. У 1959 годзе на кожную тысячу жыхараў адзначана 9,5 шлюбаў. У 1961 годзе гэты паказчык зменшыўся да 8,2, а ў 1964 годзе — да 7,4. У параўнанні з іншымі краінамі Еўропы ніжэйшыя паказчыкі шлюбаў маюць: Ірландыя, Нарвегія, Францыя, Бельгія і Швейцарыя.

### У КАЛЫСЦЫ

Зменшваецца таксама ў нашай краіне колькасць нараджэнняў. Паколькі паказчык нараджэнняў у 1956 годзе склаў 30 праміль, а ў 1960 годзе — 22,6, то ўжо ў мінулым годзе зменшыўся ён да 18,1.

А ці ведаеце, у якім ваяводстве родзіцца найменш малых грамадзян? У Альштынскім. Найбольш у Варшаве, Лодзі і Катавіцкім ваяводстве. (а-лів)

## ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ „П-Т-ІКС"

Й ТОРНУНГ

**Капітан Шустэр, начальнік пункта радыёперахопу ў Кранцы, з непакоем праглядаў рэгістрацыйную кнігу, у якой былі ўказаны ўсе запеленгаваныя да гэтага часу сакрэтныя перадатчыкі.**

**Шустэр у той дзень быў не ў гуморы. Ім авалодвалі ўсё больш панурыя думкі.**

**Колькасць таямнічых перадатчыкаў усё ўзрастала, і пад канец жніўня 1941 года яго пункт даносіў ужо ў сваіх рапартах аб дзеянні 60 радыёстанцый. Больш з іх належала Расіі — вымярэнні паказвалі, што кірунак хваль засечаных перадатчыкаў ішоў з захаду на ўсход. Вельмі вялікая колькасць новых станцый выйшла ў эфір толькі пасля 21 чэрвеня, што яшчэ больш умацавала кіраўніцтва функ-абвера ў гэтых падазрэннях.**

### ПАЯДЫНАК ПАЧЫНАЕЦЦА

**— Цікава, што стала з «П-Т-Ікс»? — падумаў Шустэр, накіроўваючыся ў аперацыйную залу, дзе лейтэнант Рэген наносіў на вялікую карту, раскладзеную на стале каардынаты замераў. Вясці пошук усіх перадатчыкаў адначасова было справай немажлівай, і некалькі дзён назад Шустэр аддаў загад працягваць перш за ўсё працу па дакладнай ліквідацыі «П-Т-Ікс».**

**— Ці ёсць ужо якія-небудзь звесткі пра тую савецкую радыёстанцыю, якую засек Ганзенман? — спытаў Шустэр Рэгена.**

**Лейтэнант, адклаўшы ўбок цыркуль, узняў стомленыя вочы на начальніка.**

**— Я толькі што нанёс на карту вынікі апошніх замераў, — адказаў ён. — Яны сведчаць аб тым, што гэтая станцыя знаходзіцца ў аколіцах Бруселя. У нас былі цяжкасці — яна двойчы змяняла час перадач, даўжыню хвалі і пазыўныя. У апошні раз, не далей як учора, мы запеленгавалі яе ўжо як «VSA».**

**Шустэр схіліўся над картай. Значыць, ён не памыліўся ў сваіх дапушчэннях, калі заяўляў, што ў рускіх ёсць разгалінаваная разведвальная сетка. Яго думку пацвярджала таксама колькасць шыфраграм, перахопленых яго пунктам у Кранцы. На жаль, спецыялістам па шыфрах, мацёрым ваўкам з абвера і СД, якія зубы з'елі на гэтай працы, не ўдалося расшыфраваць ніводнай з 250 перахопленых радыёграм рускіх. І гэта непакоіла больш за ўсё, бо нельга было ўстанавіць, якую інфармацыю мае савецкая разведка і з якіх крыніц яе атрымлівае.**

**Непакой узрастаў і ад таго, што функ-абверу ніяк не ўдавалася дакладна лакалізаваць ніводнага з астатніх перадатчыкаў. Вядома было толькі, што яны дзейнічаюць у раёне Берліна.**

**Таму ідэнтыфікацыю і лакалізацыю «П-Т-Ікс» можна было лічыць вялікім поспехам. Гэтая станцыя была надзвычай актыўная і, відаць, адыгрывала вельмі важную ролю ў сістэме радыёсувязі рускіх. Шустэр меркаваў, што ў час ліквідацыйнай акцыі ўдасца здабыць пэўныя дакументы ці звесткі, якія навялі б абвер на след усёй разведвальнай сеткі.**

**Пра выкрыццё «П-Т-Ікс» неадкладна паведамілі ў Берлін, аднак кіраўніцтва секцыі функ-абвера пастанавіла адтэрмінаваць на некаторы час ліквідацыйную акцыю супраць гэтага перадатчыка, які пасля змены пазыўных стаў «VSA», і пачаць пошукі канспіратыўных рацый у Берліне.**

**Якраз надарылася магчымасць пачаць дзейсную акцыю супраць савецкіх перадатчыкаў — функ-абвер атрымаў першую партыю ганіёметраў новага тыпу, заказаных нядаўна фірме «Вольф-радыё». Меркавалася ўжыць іх упершыню для дакладнага запеленгавання перадатчыкаў савецкай разведкі, якія дзейнічалі ў Берліне. У сувязі з гэтым вырашана было сфарміраваць спецыяльны ганіяметрычны атрад, праца якога была б абсалютна сакрэтнай. Людзі з гэтага атрада, пераапранутыя ў форму работнікаў пошты або электрастанцыі, павінны былі маскіраваць сваю дзейнасць рамонтам вулічнага кабелю. Камандзірам першага такога атрада быў назначаны лейтэнант функ-абвера Вільдэ. У дапамогу яму Алендорф і Мюлер адкамандзіравалі сваіх людзей з СД і гестапа для правядзення ліквідацыйнай акцыі і арышту абслугі перадатчыка.**

**Апрача таго, 24 верасня 1941 года функ-абвер прывёў у дзеянне спецыяльны глушыцель, які працаваў на тым жа дыяпазоне хваль, што і берлінскія станцыі, для таго, каб перашкодзіць ім перадачу радыёграм Цэнтру і «Жыльберу».**

**Сувязь паміж берлінскімі групамі і іх кіраўніцтвам была перарвана, і, нягледзячы на ўсе намаганні радыстаў, яе не ўдалося аднавіць.**

**(Працяг будзе)**

# ТРЫБУНА чытачоў

## У гонар юбілею

Сяляне вёскі Крывяцічы (Бельскі павет) 1000-годдзе Польскай Дзяржавы адзначылі грамадскім чынам пры наладжванні дарогі ў Орлю. У адну сонечную нядзелю а сёмай гадзіне раніцы пачалася праца. Згодна з дагаворам са старшынёй ГРН у Орлі, на крывяцiцкую жвiроўню была дастаўлена капарка, якою грузiлi жвiр на восем трактарных прычэп. Жыхары вёскi разгружалi прычэпы, капалi равы паабапал дарогi. Працай кiраваў солтыс Грыша Суліма, які быў асноўным арганізатарам вялікага, як на Крывяцічы, і вельмі патрэбнага для вёскі грамадскага чыну.

✲

З ініцыятывы гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Крывяцічах (старшынёй гуртка — Янка Кірыдзюк — рэд.) моладзь вёскі грамадска працавала пры ўпарадкавані святліцы. Хлопцы прынеслі цэмент, рабілі сходы і залівалі памост у сенцах. Дзяўчаты купілі паперу і ўпрыгожылі святліцу ўсярэдзіне.

**Янка Кірыдзюк**
Крывяцічы

## Белы, як з малака

У Крушынянах на Сакольшчыне не было злеўні малака. У гэтым годзе пабудазалі яе без цяжкасцеи. А ста¬ася гэта так. Ад кожнага літра проданага дзяржаве малака малачарня адлічвала па чатыры а потым па пяць грошы. Такім чынам узбіралася вялікая сума. У мінулым годзе пачалася будова злеўні малака. Жыхары Крушынян зрабілі фундамент, навазілі жвіру і каменя. «Фахоўцы» пабудавалі сцены, пакрылі, атынкавалі. Будынак такі прыгожы, такі белы, быццам з малака. І так неадчувальнымі грашовымі адлікамі ад малака пабудавана патрэбны вёсцы будынак.

**А. Макаль**
Крушыняны

## Патрэбны знак

На шашы Саколка — Крынкі на 12 кіламетры праходзіць дарога ад Сухініч да Вярхлесся. Знаходзіцца яна ў вельмі нізкім месцы, быццам у яме. Нельга ўбачыць, ці шаша вольная, ці не пад'язджае самаход. Упапярок шашы пераязджаюць фурманкі. А асабліва іх многа кожны аўторак і пятніцу, таму што ў гэтыя дні прадаюцца дровы ў лесе. Небяспечнае месца. Можа кожны раз здарыцца няшчасце. Неабходна, каб павятовае праўленне эксплуатацыі дарог у Саколцы хаця б паставіла папераджальны дарожны знак, што ў гэтым месцы знаходзіцца рухлівая сялянская дарога.

А.С.
Сакольскі павет

## Не шанавалі

Яшчэ да нядаўна ў Плёсках у мясцовай святліцы знаходзілася кавярня «Руху». Можна было тут пачытаць газеты, выпіць чорнай кавы, зайграць у шахматы.

Адным словам было добра. Але плёскаўская моладзь і старэйшыя не ўмелі шанаваць маёмасці кавярні. Паламалі крэслы, сапсавалі адаптар, не заўсёды належна захоўваліся. Кепска вяліся і разлікі з «Рухам». І вось з гэтых прычын аддзел «Руху» ў Бельску Падляшскім ліквідаваў кавярню. Патрэбная для вёскі святліца зараз без апекі. Ніхто не цікавіцца, каб быў там парадак. Яна стаіць адамкнёная. Гуляюць у ёй дзеці ў хованкі. Там вельмі брудна. Нічога ў ёй няма, апрача печкі, на якой ляжыць сапсутае і размантаванае радыё. І так, патрэбная святліца для вёскі, а перш за ўсё для моладзі, стаіць зусім без апекі. Не цікавіцца ёю ніводная мясцовая арганізацыя, а таксама ГРН у Храбалах.

**Янка**
Бельскі павет

## Можа помнік

Паміж вёскамі Кожына і Гукавічамі ў Бельскім павеце ёсць аграмадны камень. Вышыня яго каля 2 метраў, а шырыня паўтара метра. На камені выразаныя літары, але прачытаць іх немагчыма. Найстарэйшыя людзі суседніх вёсак не памятаюць, хто, калі і з якой нагоды гэты камень тут паставіў. Відавочна гэта нейкі помнік.

**П. Зінкевіч**
Бельск





МЕЛІЯРАЦЫЯ. У раёне вёскі Калодна (Беластоцкі павет) праводзіцца меліярацыя сенажаці. На здымку відаць адрэгуляваную рэчку Плоску.
Фота: М. Хмялеўскі

## Раскапалі

Непадалёк вёскі Слабодка знаходзіцца высокая Лысая гара. Непадалёк яе ёсць другая гара, якая называецца Шаршнёвая. У мінулым тут раслі высокія сосны. Як расказвае В. Сухадола, сосны на Шаршнёвай гары было відаць нават з адлеглай 50 км Страблі. Але сосны вырубалі і застаўся там толькі ядловец. ГРН у Семяноўцы прадала гэтую гару для кірамічнай фабрыкі, якая непадалёку ад яе будуецца. Зараз тут вялікая жвіроўня. Гару раскапалі. Страціла яна сваю даўнейшую прыгажосць.

**Мікола Сухадола**
Слабодка

## Бацькі і дзеці б'юцца

Здарылася гэта ў Альхоўцы на Гайнаўшчыне. Браты Лукшы, якія жывуць хаця ў паасобных памяшканнях, але пад адной страхой, ад даўжэйшага часу паміж сабой сварыліся. Адзін другому ўсё рабіў на злосць. Дзеці іх у час сварак уступаліся за бацькамі.

Аднаго брата дачка Рэгіна, а другога сын Яўгень вучыліся ў сярэдняй школе ў Гайнаўцы.

У час канікулаў, а канкрэтна 4-га жніўня, браты зноў завялі сварку і пачалі біцца. На дапамогу бацькам паспяшалі дзеці. Яўгень схапіў камень, пусціў яго ў Рэгіну і трапіў у галаву. Рэгіна асунулася на зямлю і страціла прытомнасць. Адвезлі яе ў Гайнаўскую бальніцу. Аказалася, што ў двух месцах трэснуў чэрап і зрушыліся мазгі.

Калі яна апрытомнела, убачыла ў бальніцы сваю маці, якая таксама была пабіта.

Яўгена арыштавала міліцыя, але за пару дзён выпусціла. (Ён не мае яшчэ 18-ці год). Месца яго заняў бацька, якому напэўна прыдзецце даўжэй пасядзець і адказваць перад судом за сваё «геройства».

**Верас**
Гайнаўскі павет

## Чытачы пытаюць — „НІВА" адказвае

Пытанне: Пры самай граніцы, каля майго агарода, растуць напаўздзічэлыя яблыні і грушы, галіны якіх звісаюць аж да чатырох метраў над маім агародам, заглушаючы варыва. Ці можна пазбыцца непатрэбных дрэў?

Адказ: Трэба патрабаваць ад суседа, каб абрэзаў галіны з дрэў, якія звісаюць над вашым агародам. Калі ён не захоча гэтага зрабіць, вам прыслугоўвае права абрэзаць галіны самому. Змусіць суседа да таго, каб ён высек дрэвы, нельга. Фрукты, якія спадаюць на ваш агарод, вы маеце права сабіраць для сябе, а суседу можаце забараніць уваходзіць на ваш грунт.

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | — | 320 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 460 | 440 | 370 |
| яйкі | 1 шт. | 1,70 | 1,50 | 1,50 |
| масла | кг. | 57,50 | 55 | 55 |
| ялавічына | кг. | 31 | — | — |
| свініна | кг. | 36 | 38 | 36 |
| сала | кг. | 34 | 35 | 34 |
| бульба | кг. | 1,20 | 0,85 | 1,00 |
| цыбуля | кг. | 4,50 | 5 | 4 |
| капуста | кг. | 1,50 | 1,50 | 1,00 |
| буракі | кг. | 1 | 2,50 | 2 |
| морква | кг. | 2 | 2,50 | 2 |




Мілае Сэрцайка!

Я ўжо немаладая. Па-праўдзе, то і трохі саромелася да цябе пісаць. Я маю ўжо 13-гадовую дачку. Бацька маёй дачкі не ажаніўся са мною, і я яе сама гадавала. Так што ведаеш, Сэрцайка, якое было маё жыццё, тым больш, што нават не хацеў плаціць аліментаў. Цяпер я маю чалавека, за якога магла б выйсці замуж. Ён мне трохі і падабаецца, але найважнейшае, што хацела б ужо лягчэй трохі пажыць. Надаела цяжкая праца за мужчыну (бо я сама на гаспадарцы з дзіцём) і надаела ўжо самотнае жыццё. І ўсё было б добра, калі б не адна рэч, якая стаіць на перашкодзе. Не ведаю, што рабіць, як паступіць. Гэты чалавек, за якога я хацела б выйсці замуж, — муж маёй сяброўкі. Яны таксама маюць аднаго сына. Аднак ён з ёю ўжо пару год як разышоўся, маюць развод. Разышоўся па прычыне маёй сяброўкі. Сын жыве пры маці, а Янэк (яе былы муж) жыве сам у суседняй вёсцы. Сяброўка даведалася аб гэтым і сказала мне нядаўна, каб я не лезла ім у дарогу, бо хоць ён з ёю ўзяў развод, дык яна будзе мсціцца (хоць не ведаю з якой рацыі) і зробіць так, каб ён увогуле не ажаніўся, каб ніводная жанчына яго не захацела. Скажы, Сэрцайка, ці паслухаць мне сяброўкі, ці кіравацца сваім розумам.

**Марта**
з Сакольскага павета

Шаноўная Марта! На маю думку, ты павінна кіравацца выключна сваім розумам. Усё жыццё ты мела цяжкае, і цяпер, калі маеш аказію аблегчыць яго, не павінна з гэтага рэзігнаваць. Тым больш, што гэта добры чалавек. А сяброўцы пастарайся вытлумачыць, што ты не ўвайшла ім у дарогу, бо яны ўжо даўно пасля разводу, а Янэк, калі ты не пойдзеш за яго замуж, дык і так ажэніцца. Яна не мае да яго ўжо ніякага права. Мае толькі сын, якога ён шануе і плаціць рэгулярна аліменты. А калі твая сяброўка і гэтага не зразумее, тады няхай сабе гневаецца, ты не пераймайся. Кожнаму залежыць найбольш на сваіх асабістых справах, як кажуць «свая кашуля бліжэй цела».

Жадаю табе ўсяго найлепшага у далейшым жыцці.

**Сэрцайка**

# КІНО

**Праграма**
на 20—25.IX.1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Światła w oknach" (radz.), 20—21. „Pojedynek" (NRD), 22—23. „Dziewczyna kłamie" (jugosłowiański), 24—25.

**Кляшчэлі**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 20—21. „Miłość jednej nocy" (rumuński), 22—23. „Najdroższa" (radz.), 24—25.

**Дубіны**
„Jesienny dzień" (wietnamski), „Kapral w matni" (węgierski), 24—25.

**Нарва**
„Inspektor i noc" (bułg.), 21—25.

**Нараўка**
„Gorąca linia" (polski), „Jojo" (franc.), 21—25.

**Чыжы**
„Lęk" (czeski), „Testament uczonego" (radz.), 21—25.

**Дубічы Царкоўныя**
„Był sobie dziad i baba" (radziecki), „Czarne skrzydła" (polski), 21—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Ojciec żołnierza" (radz.), „Kalosze szczęścia" (polski), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Hasło bez odzewu" (bułg.), 20—21. „Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), 22—23.

**Міхалова**
„Zobaczymy się w niedzielę" (polski), 20—21. „Starsza pani bez godności" (franc.), 22—23. „Barwy walki" (polski), 24—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Dni grozy i śmiechu" (USA), 20—21. „Yanco" (wietn.), 22—23. „Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), 24—25.

**Мілейчыцы**
„Oddajcie mi dziecko" (NRD), 20—21. „Dotknięcie nocy" (polski), 22—23. „Dzwonić Northside 777" (USA), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 20—21. „Normandia — Niemen" (radz.), 22—23. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 24—25.

**Шудзялава**
„Ameryka, Ameryka" (USA), „Ewa — A-5116" (węgierski), 21—25.

**Сідра**
„Dzielnica szczęścia" (rumuński), 20—21. „Giuseppe w Warszawie" (polski), 22—23. „Tajemnica szyfru" (rumuński), 24—25.

**Сухаволя**
„Żona dla Australijczyka" (polski), „Panie inspektorze" (jugosł.), 21—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Droga przez cmentarz" (radziecki), „Ulica Graniczna" (polski), 24—25.

**Ліпск**
„Człowiek z przeszłością" (radziecki), „Niewidomy muzyk" (radz.), 24—25.

**ТЭАТР ім. Вянгеркі**
(выязная група)

**Дуброва**
„Drugi strzał" — 25.IX.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przepłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.
Nakład 5965. Bltk D-3

